


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — **4,25 м.; ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; **250 фр.**; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 50 (384) — Нядзеля, 15 сьнежня 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# Камунізм пераходзіць да наступу

У апініі Захаду яшчэ няма канчальна ўзгодненага пагляду што да сутнасьці зьменаў, якія нядаўна адбыліся ў Савецкім Саюзе ў сувязі з упадкам Жукава й роляй Хрушчова, а яшчэ больш нявыразна прадстаўляецца сытуацыя ў цэлым камуністычным блёку, узьніклая на нядаўнай нарадзе дванаццацёх камуністычных дзяржаваў у Маскве.

Некаторыя на Захадзе ўважаюць, што на ўспомненай нарадзе Крэмль не дасягнуў жаданае мэты і ў сувязі з гэтым ягоная кіраўнічая пазыцыя ў сьветавым камуністычным руху значна пахіснулася. Гэткі свой пагляд дадзеныя палітычныя колы абапіраюць галоўна на такіх фактах, як непадпісаньне Югаславіяй маскоўскай дэклярацыі, няўдача аднаўленьня камінтэрну-камінформу ды, напасьледак, што ўспомненая дэклярацыя была абвешчаная толькі за шэсьць дзён пасьля заканчэньня маскоўскіх нарадаў. Усё гэта мае сьветчыць, што ў камуністычным блёку быццам існуюць вялікія разыходжаньні і навет трэшчыны.

Другая часьць палітычнай апініі Захаду ўважае, што маскоўскія нарады ўсё-ж былі вялікім крокам наперад у кірунку кансалідацыі камуністычнага лягеру й запачаткаваньнем новай фазы наступу камунізму супраць вольнага сьвету, наступу больш гвалтоўнага й станоўчага. На нашую думку, гэты другі пагляд мае пад сабой больш абаснаваньняў.

Апошнія выпадкі ў Савецкім Саюзе і ў цэлым камуністычным блёку закончылі той крызіс, які, як ведама, быў выкліканы крывавым здушэньнем вугорскага паўстаньня й змушэньнем Масквы згадзіцца на собскі шлях да сацыялізму ў Польшчы. Сяньня ня можа быць найменьшых сумляваньняў, што адбываецца даволі прысьпешаны працэс кансалідацыі камуністычнага блёку, а ягонымі беспасярэднімі передумовамі сталіся нядаўныя выпадкі ў Савецкім Саюзе.

Адным такім выпадкам была нутраная кансалідацыя камуністычнае партыі ў самым Савецкім Саюзе пасьля ачышчэньня яе ад элемэнтаў, якія ўносілі ці маглі ўносіць паважныя нязгоды й разыходжаньні на крэмлёўскім Алімпе. Упадак «антыпартыйнай групы» Молатава, Маленкава, Кагановіча й Шэпілава, а пазьней і ўпадак маршала Жукава, ня гледзячы на ўсе адмоўныя бакі, сцэмэнтаваў камуністычную партыю ў Савецкім Саюзе й аднавіў ейны поўны кантроль над арміяй.

Ня будзем уваходзіць у пытаньне, ці з адхіленьнем Жукава ўжо скончыліся разыходжаньні ў радох савецкай камуністычнай партыі ці яшчэ прадаўжаюцца, бо аб гэтым судзіць можа адно толькі на падставе здагадак і пабожных зычэньняў. Ня будзем таксама згадваць, ці Хрушчоў узапраўды знаходзіцца на шляху да аднаасабовай дыктатуры ці зьяўляецца толькі першым выканальнікам волі партыйнага калектыву. Канкрэтныя факты гавораць за тым, што какамуністычная партыя Савецкага Саюзу сяньня зьяўляецца значна больш скансалідаванай, чымся на працягу цэлага году пасьля падзеяў у Пазнані, Варшаве й Будапэшце. Аб гэтым ейным кансалідаваньні й аднагоднасьці можа сьветчыць хоць-бы пазыцыя пленуму ЦК партыі ў справе Жукава. Пленум не ўважаў за патрэбнае лічыцца зь вялікай папулярнасьцю ў арміі гэтага маршала, калі стала ясным, што дзякуючы ягонай палітыцы гэгэмонія партыі над арміяй захісталася.

Другім важным выпадкам, што спрычыніўся да кансалідацыі партыйных радоў у СССР й падняцьця аўтарытэту партыйнага кіраўніцтва, былі апошнія савецкія дасягненьні ў галіне ваеннае тэхнікі й здабыцьцё перавагі над Амэрыкай у галіне міжкантынэнтальнага ракетнага аружжа й выпушчэньня штучных спадарожнікаў зямлі.

І вось на фоне ўсіх гэтых дасягненьняў і адбылося шумнае сьвяткаваньне ў Маскве саракавой гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, падчас якога была таксама задэманстраваная мілітарная сіла Савецкага Саюзу ў нябывалай перад гэтым ступені. І на фоне гэтых дасягненьняў, беспасярэдна пасьля кастрычніцкіх сьвяткаваньняў, і адбылася нарада дванаццацёх камуністычных дзяржаваў у Маскве. Час для гэтае нарады быў выбраны як найлепшы й адпаведны псыхалягічны настрой таксама створаны.

Што пад дэклярацыяй гэтае нарады не аказалася трынаццатага подпісу Югаславіі, не магло быць дый ня было вялікай неспадзеўкай. У сучасны мамэнт стаіць пад знакам запытаньня справа далейшай амэрыканскай дапамогі для Югаславіі, вельмі неабходнай для гэтай краіны. Гэтай дапамогі не магла-б зрэкампэнсаваць Масква, якая змушаная выкідаць вялікія сумы для краінаў Сярэдняга Ўсходу й камуністычнага Кітаю. Таму адмова Югаславіі палажыць свой подпіс пад маскоўскай дэклярацыяй магла быць узгодненая з Крэмлём. Трэба не забывацца, што хоць Югаславія не зьяўляецца ў поўным значэньні палітычным сатэлітам Масквы, але ідэялягічным сатэлітам ніколі быць ня пераставала і ў крытычных для Крэмля выпадках заўсёды давала яму патрэбнае падтрыманьне. Дык непадпісаньня Югаславіяй маскоўскай дэклярацыі, як і адмова паездкі Ціты ў Маскву на сьвяткаваньне саракагодзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, у ніякім выпадку нельга разглядаць, як адыходу Югаславіі ад камуністычнага блёку.

Нельга таксама разглядаць за вялікую няўдачу маскоўскай нарады і таго, што не дайшло да аднаўленьня камінтэрну-камінформу, а было толькі выражанае пажаданьне склікаць у будучыні супольныя нарады камуністычных партыяў. Стварэньне ў сяньняшніх умовах камуністычнай цэнтралі ў форме камінтэрну-камінформу трэба ўважаць за передчаснае пасьля тых яшчэ зусім сьвежых уструсаў у радох усіх камуністычных партыяў сьвету і ў узаемадачыненьнях між імі і камуністычнай партыяй Савецкага Саюзу, якія мелі месца пасьля XX зьезду камуністычнай партыі Савецкага Саюзу й пасьля здушэньня вугорскага паўстаньня. Аднак тыя пункты праграмы далейшай дзейнасьці камуністычнага блёку, якія былі ўзгодненыя на маскоўскай канфэрэнцыі, на сяньня раўнаважаць у дастатковай ступені эвэнтуальнае паўстаньне такой камуністычнай цэнтралі.

Супольная дэклярацыя дванаццацёх камуністычных дзяржаваў падчырквае поўнае іхнае ідэялягічнае й палітычнае адзінства ды вызнае правадырства Савецкага Саюзу ў цэлым камуністычным блёку. Дэклярацыя дапускае існаваньне розных шляхоў да сацыялізму, але тут-жа засьцерагаецца, што гэтых шляхоў ня можа быць шмат і ня можа быць між імі вялікіх разыходжаньняў. Нельга было ў дэклярацыі абмінуць гэтага пункту або асудзіць «розныя шляхі да сацыялізму», калі яшчэ гэтак нядаўна сам Крэмль высунуў такую канцэпцыю, а Польшча знаходзіцца яшчэ й сяньня на «собскай дарозе да сацыялізму». Удзельнікі маскоўскае нарады аднагодна занялі асабліва вызываючую пазыцыю ў дачыненьні да Амэрыкі, дзе, згодна з крэмлёўскімі прапагандовымі цьверджаньнямі, сканцэнтраваліся «агрэсыўныя сілы заходняга імпэрыялізму» і адкуль выходзіць бесьперапынная загроза міру й бясьпечнасьці.

Найбольш, аднак, вымоўным у дэклярацыі ёсьць пункт, у якім гаворыцца аб способах пераняцьця камуністымі ўлады ў некамуністычных краінах. Паўтараецца і тут ведамая прапагандовая формула аб магчымасьцях захопу камуністымі ўлады мірнымі й парлямэнтарнымі способамі, але дадаецца, што **«ў умовах, у якіх эксплёататарскія клясы паслугоўваюцца сілай супраць працоўных, трэба прыняць магчымасьць і няімірнага пераходу да сацыялізму»**, г. зн. дапускаецца магчымасьць крывавае рэвалюцыі й вонкавае агрэсіі. Дзе і калі трэба паслугоўвацца сілай, гэта мае залежыць ад «гістарычных умоваў» у дадзенай краіне.

Вось-жа пункт маскоўскай дэклярацыі, у якім прапануецца ўжыцьцё сілы для захопу ўлады камуністымі ў некамуністычных краінах, трэба ўважаць за зваротны пункт у камуністычнай палітыцы. Гэта выразнае запачаткаваньне курсу на сьветавы камунізам і на сьветавую пралетарскую рэвалюцыю. Наагул нарада зьвярнула вялікую ўвагу на праблемы ваеннага характару й высунула дамаганьне ўзмацненьня Варшаўскага пакту.

Маскоўская нарада цікавая яшчэ й тым, што яна заманіфэставала поўную


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


# Ідэя незалежнасьці й рабскае паняволеньне

Дзьве апошнія сьветавыя войны перакроілі палітычную карту сьвету ды ўтварылі цэлы рад новых незалежных гаспадарстваў на абшарах аджылых імпэрыяў, што прадстаўлялі сабою штучныя зьлепкі з розных народаў. Пасьля першае сьветавае вайны зусім распалася на паасобныя гаспадарствы Аўстра-Вугорская й часткава Расейская імпэрыя. Пасьля другое сьветавае вайны ідэя незалежнасьці дасьпела й пачала рэалізавацца амаль вылучна сярод каляніяльных народаў Азіі й Афрыкі. У працэсе гэтае рэалізацыі 30 жніўня сёлета пасьля апошняе вайны паўстала 22-ое незалежнае гаспадарства — Фэдэрацыя Маляі.

Абмяжуемся толькі пералічэньнем усіх іх: У Азіі — Бурма, Камбоджа, Цэйлён, Рэспубліка Карэя, Народная Рэспубліка Карэя, Індыя, Інданэзія, Ізраэль, Ярданія, Пакістан, Філіпіны, Сырыя, Паўночны Ветнам і Паўдзённы Ветнам. У Афрыцы — Гана, Лібія, Марока, Судан і Туніс. У гэтым ліку дзьве дзяржавы камуністычныя, значыцца незалежныя толькі фікцыйна, як Паўночны Ветнам ды Паўночная Карэя. Новыя гаспадарствы шмат гадоў былі ў каляніяльным становішчы й іхныя народы, за выключэньнем гаспадарстваў камуністычных, зьяўляюцца сяньня вольнымі й незалежнымі гаспадарамі ў сваіх краінах.

Зусім іначай выглядае справа ажыцьцяўленьня ідэі незалежнасьці ў Эўропе. Тут пасьля другое сьветавае вайны толькі адна Ісляндыя здабыла незалежнасьць, затое Савецкі Саюз пашырыў рабскае паняволеньне на Беларусь, Украіну, Эстонію, Лацьвію, Летуву, Польшчу, Румынію, Баўгарыю, Альбанію, Вугоршчыну, Чэхаславаччыну, Усходнюю Нямеччыну й фактычна Югаславію ды тым самым узмоцніў загрозу далейшага захопніцтва вольнага сьвету.

Гэтыя канкрэтныя, але супярэчныя паводля сваёй ідэі факты сьветчаць, з аднаго боку, аб дэмакратычным падыходзе Захаду да натуральнага права на вольнасьць і незалежнасьць усіх народаў. У калёніях Азіі й Афрыкі заходнія гаспадарствы кіраваліся толькі матарыяльнымі карысьцямі й для большае эксплёатацыі гэтых краінаў стараліся падняць культурны ўзровень тубыльцаў, дапамагаючы ім разьвіваць нацыянальна-бытавыя асаблівасьці й прысвойваць дасягненьні заходняй цывілізацыі. Гэта зрабіла гэтыя народы дасьпелымі, што й спрычынілася ў значнай меры да паўстаньня значнага ліку новых гаспадарстваў.

З другога боку, савецкі імпэрыялізм, як прадаўжальнік царскага імпэрыялізму, паслугоўваецца спрадвечнымі маскоўска-дэспатычнымі способамі прыгнечаньня паняволеных народаў. Ён тармуе ня толькі матарыяльны вызыск, абядненьне і навет голад, але й бессаромна тармозіць і нішчыць нацыянальна-духовыя вартасьці паняволеных народаў, якія раней на працягу доўгіх стагодзьдзяў буйна разьвіваліся й дасягнулі высокага культурнага ўзроўню, зь якім не маглі раўняцца сяньняшнія паняволькі.

Бальшавіцкія, як і раней царскія, способы паняволеньня вызначаюцца тэрорам і фізычным нішчэньнем народаў ды русыфікацыяй. Таму паняволеныя бальшавікамі народы вядуць змаганьне ня толькі з камунізмам, з рабскаю сыстэмаю гаспадараньня, але й з расейска-савецкім імпэрыялізмам што топчыць Божае права на вольнае й незалежнае жыцьцё.

Расейская эміграцыя складаецца амаль вылучна з былое ўпрывілеяванае клясы й таму бессаромна льле балота на арганізацыі й нацыянальную дзейнасьць тых народаў, што былі калісьці ёю паняволеныя, а цяпер бальшавікамі, ды прычэплівае ім мянушкі «сэпаратыстых» і «расчленіцеляў», гэтак як і бальшавікі зь пенаю на вуснах нападаюць на «нацдэмаў», «буржуазных нацыяналістых», «фашыстых» і «контррэвалюцыянераў», каб апраўдаць сваё фізычнае й духовае паняволеньне. Як калісьці царскія ўпрывілеяваныя клясы, гэтак сяньня новая кляса камуністых зьяўляецца гаспадаром усяго багацьця ў захопленых краінах і трымае народы гэтых краінаў у паўгалодным існаваньні.

Такі імпэрыялістычна-дэспатычны камплекс утварыўся ў упрывілеяваных клясах Маскоўшчыны за доўгі гістарычны час у працэсе паступовых падбояў шматлікіх народаў ды моцна закараніўся ў іхных душах і мазгох. Гэтыя ўпрывілеяваныя клясы Масквы ніяк ня могуць зразумець і дапусьціць гуманных дачыненьняў да народаў, што апынуліся ў тэй ці іншай ступені ў сфэры іхных уплываў.

Заняўшы маскоўскую імпэрыялістычную калясьніцу ў Крэмлі, бальшавікі ўспадкаемнілі расейскі гістарычны працэс з далейшым працягам паняволеньня народаў й пашыраньнем сваіх імпэрыялістычных захопніцтваў. Яны толькі для ашуканства натварылі фікцыйных рэспублікаў з нацыянальнымі шыльдамі, але з расейскім зьместам. Паняволеныя бальшавікамі народы за 40 год няволі добра зразумелі гэтыя ашуканствы. А таму іхныя імкненьні да волі, побач з эканамічным крызісам, зьяўляюцца найгалаўнейшым недамаганьнем бальшавіцкае імпэрыялістычнае сыстэмы.

Здабыцьцё незалежнасьці каляровымі каляніяльнымі народамі зьяўляецца клясычным прыкладам адмiраньня імпэрыялістычнае ідэі й паняволеньня адных народаў другімі. Таму, трэба верыць, хутка надыйдзе час, што і ў культурнай Эўропе зьнікне расейскае паняволеньне ў форме сяньняшняга бальшавізму, і паняволеныя народы у тым ліку й Беларусь, далучацца да сям'і новых вольных гаспадарстваў Азіі-Афрыкі і ўсяго вольнага сьвету.

**А. Негнявіцкі**

# За мінулы тыдзень

(пс) У папярэднім тыднёвым аглядзе мы выказалі нясьмелую надзею, што можа ўрэшце ў космас паляціць і амэрыканскі спадарожнік зямлі. Аптымізм быў передчасным бо перад вачыма вялікай публікі гэты «спутнік», замест ляцець у космас — разьляцеўся дробнымі чарапамі па полі. Гэта няўдача зрабіла прыкрае ўражаньне ў заходнім сьвеце, а выклікала бурную радасьць у Маскве.

Рэакцыя заходняй прэсы была жывая й розная: ад горычы й абурэньня да філязафічнага спакойнага разважаньня. «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» піша: «Амэрыканская грамадзкасьць абураная тым, што людзі адказныя за гэтую акцыю, ведаючы, што няўдача магчымая, дапусьцілі да таго, каб гэтае выпрабаваньне папераджалі шумныя заявы. Блага ўжо тое, што Задзіночаныя Штаты спазьніліся з выпушчэньнем спадарожніка. Але такой няўдачы падчас першай спробы, якая загадзя была так разрэклямаваная — ніякім чынам нельга даравацъ. Аднак ў канчатковым выніку гэта няўдача можа мець добрыя бакі. Амэрыканскі народ абураны й ведае, каго абвінавачваць».

Гэтая няўдача сама па сабе ня мела-б вялікага значаньня, каб адміністрацыя ЗША не стварыла такога напружаньня ў сувязі зь першай спробай. Запраўды ня было патрэбы так сьпяшацца, а яшчэ менш — рабіць столькі шуму. Ракетная тэхніка — справа жыцьцёвай важнасьці, ня нейкая новасканструаваная прылада да адкаркоўваньня «кока-колі», і таму крыклівая рэкляма прыносіць толькі шкоду. А шкода вялізарная: столькі вады на маскоўскі млын!...

Каб-жа прынамся гэтае сумнае дасьветчаньне каго трэба чаго трэба навучыла!..

*

Можна думаць, што Амэрыканцы так сьпяшаліся із штучным спадарожнікам у сувязі з парыскай канфэрэнцыяй кіраўнікоў краінаў НАТО, бо Айзэнгаўэр хацеў прыехаць з пэўнымі дасягненьнямі. Усё-ж было-б лепш каб прыехаў з рэальнымі й адначасова атракцыйнымі плянамі й прапановамі кансалідацыі вольнага сьвету перад экспансіяй Масквы. І тут трэба сьцьвердзіць, што да гэтага часу нічога падобнага ня бачым. Да канфэрэнцыі засталося толькі некалькі дзён, а амбасадары заходніх дзяржаваў у Вашынгтоне надарэмна дабіваюцца ад амэрыканскага ўраду інфармацыі што да плянаў узмацненьня палітычнай і стратэгічнай структуры НАТО. Рэч зразумелая, што ўсе глядзяць на Амэрыку, як на адзіную рэальную патэнцыяльную сілу, якая можа супрацьставіцца бальшавіцкай экспансіі.

«Вашынгтон Пост» заклікаў прэзыдэнта Айзэнгаўэра, каб выказаў хаця-б «пробліск геніяльнасьці» дзеля зьнівэляваньня савецкай перавагі. Аднак, адначасова газэта сьцьвярджае, што амэрыканская адміністрацыя ўпорыста маўчыць і не рэагуе на войструю крытыку.

Будзем спадзявацца, што Амэрыканцы прывязуць у сваім багажы ў Парыж ужо калі ня гэны «пробліск геніяльнасьці», дык прынамсі разумныя прапановы й рэальныя пляны.

Няўдача з амэрыканскім штучным спадарожнікам — яшчэ не трагэдыя. Але няўдача парыскай канфэрэнцыі — была-б вялікім няшчасьцем.

*

Турэцкі ўрад афіцыяльна заявіў, што Задзіночаныя Штаты дадуць Турцыі кіраваныя ракеты, і што турэцкія афіцэры будуць вучыцца ў Амэрыцы, як абыходзіцца з гэтай зброяй.

Усё гэта добра, але навошта рэкляма? Можа праз якісь час даведаемся, дзе збудаваныя катапульты для гэтых ракетаў які іхны калібар і прызначэньне...

Ізноў рэкляма «кока-колі»...

Няма сумлеву, што бальшавікі гадамі выпрабоўвалі сваіх «спутнікаў» і што ў гэтых выпрабаваньнях было дзесяткі няўдачаў, але сьвет даведаўся аб «спутніках» толькі тады, калі яны ўжо лёталі навокал Зямлі.

Добрая прыказка: «Не сьпяшайся языком, а парупся на справе»...

# „Дабравольны саюз раўнапраўных народаў“

На дадзеным этапе Масква зварочвае галоўную ўвагу на народы Ўсходу, цьвердзячы цынічна, што СССР, гэты дабравольны саюз «раўнапраўных народаў», зьяўляецца «запраўдным і верным сябрам» усіх прыгнечаных народаў, што толькі «сацыялістычны лад нясе народам усяго сьвету свабоду і раўнапраўнасьць», у той час як Захад, і перадусім Амэрыка, зьяўляюцца «зьлейшымі ворагамі» нацыянальнай свабоды й незалежнасьці. Пры гэтым у акцыю пускаецца прапаганда аб «усебаковым нацыянальным развоі» савецкіх рэспублікаў, што быццам-бы карыстаюцца ўсімі атрыбутамі нацыянальнай незалежнасьці й права.

Тут мы разгледзім артыкулы Н. А. Мухітдзінава «Вялікі Кастрычнік і Ўсход» і А. К. Азізяні «Сацыялістычнае пераўтварэньне нацый савецкага Ўсходу», зьмешчаныя ў журнале «Советское востоковедение» (№ 5 за 1957 год). Гэтыя артыкулы найбольш характэрныя безадказным хвальшаваньнем сутнасьці справы, антыамэрыканскай дэмагогіяй, а таксама некаторым прызнаньнем да тэй нацыянальнай дыскрымінацыі, якая ў запраўднасьці існуе ў СССР.

Першым чынам зварочвае на сябе ўвагу канцэпцыя пра «буржуазных нацыяналістых». Апошнія трактуюцца, як «зьлейшыя ворагі» сваіх народаў, наёмнікі другіх імпэрыялістычных гаспадарстваў. Гэта яны імкнуліся «разьдзяліць» Расею, прадаць яе Амэрыцы, Ангельшчыне й Францыі. Значыцца, перадусім цэласьць Расеі. А як-жа: «Імпэрыялістыя ЗША, Англіі, Францыі і іншых краінаў разьлічвалі падзяліць Расею на «сфэры ўплываў», ператварыць яе ў сваю калёнію. У нацыянальных раёнах краіны да ўлады прыйшлі рознага тыпу буржуазныя нацыяналістыя. Створаныя імі ўрады — Украінская Цэнтральная Рада, Беларуская Рада, «Какандзкая аўтаномія» ў Сярэдняй Азіі, контррэвалюцыйная Алаш-Арда ў Казахстане, контррэвалюцыйныя ўрады меншавікоў у Грузіі, мусавістаў у Азэрбайджане, дашнакоў у Армэніі і г. д. — былі цесна зьвязаны з вонкавымі імпэрыялістычнымі сіламі. Усе яны, спэкулюючы прынцыпамі самавызначэньня, фактычна гуртам і ў розьніцу прадавалі радзіму імпэрыялістым . . .» (б. 29).

Значыцца, калі народы зажадалі скінуць ярмо расейскага імпэрыялізму і ўзяліся за будаваньне сваіх нацыянальных гаспадарстваў, яны гэтым зрабілі найбольшае праступства перад «радзімай». Прызнаньне большых камэнтараў не патрабуе. Тут наступае таксама й другое прызнаньне, а пайменна, што «ў суворых бітвах зь белагвардзейцамі і інтэрвэнтамі Савецкае гаспадарства памагло **народам Расеі** прыбраць з палітычнай арэны буржуазна-нацыяналістычныя ўрады і пабудаваць сваю нацыянальную дзяржаўнасьць на новых, савецкіх сацыялістычных асновах» (тамжа). **Такім чынам афіцыйна сьцьверджаны нацыянальны супрацiў і апрабаваная палітычная агрэсія чырвонае Расеі.**

Далей, хутка забыўшыся на свае прызнаньні, аўтары артыкулаў прыбягаюць да абабітага старога цьверджаньня, што быццам-бы саюз савецкіх рэспублікаў паўстаў зь ініцыятывы ЦК партыі, і перадусім зь ініцыятывы Леніна. У доказ яны прыводзяць так званую «Дэклярацыю правоў народаў Расеі». Аднак-жа ведама, што як сама «Дэклярацыя» была напісана пад узьдзеяньнем нацыянальна-вызвольных рухаў, так і СССР паўстаў толькі дзякуючы супраціву нацыянальных рэспублікаў, каторыя адкінулі ідэю ЦК партыі пра ўтварэньне адзінай фэдэратыўнай Расейскай савецкай рэспублікі.

Нацыянальнае жыцьцё ў савецкіх рэспубліках аўтары расьпісваюць у занадта ружовых хварбах: усебаковы развой нацыянальнай культуры, справядлівыя суадносіны, роўнасьць усіх народаў. Адным словам найлепшае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня, прыклад для народаў Усходу: «40 гадоў існаваньня ленінскай нацыянальнай палітыкі ў СССР паказалі ўсяму сьвету, што камуністыя — самыя пасьлядоўныя, самыя рашучыя і верныя сябры прыгнечаных народаў, што сацыялістычны лад нясе народам усяго сьвету . . . свабоду і раўнапраўнасьць . . .» (б. 38). Няма ніякага нацыянальнага прыгнечаньня ў СССР: «Амэрыканскія й ангельскія часапісы распаўсюджваюць, прыкладна, паклёпніцкія слухі аб прыцясьненьні ў СССР мусульманскай рэлігіі, аб разбурэньні помнікаў старыны», — абураюцца аўтары і тут-жа адказваюць, карыстаючыся падобнымі «важкімі» аргумэнтамі: «У сувязі з гэтым было-б на месцы напомніць яшчэ раз, што савецкімі законамі ўстаноўлена поўная свабода веравызнаньня. Пра гэта гаворыць артыкул 124 Канстытуцыі СССР і адпаведныя артыкулы канстытуцыяў нацыянальных рэспублік. У СССР царква аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы» (б. 21). Канстытуцыя абараняе таксама і нацыянальны сувэрэнітэт і наагул нацыянальнае жыцьцё савецкіх народаў. Гэнацыд цэлых народаў, а пайменна паўночна-каўказкіх, Калмыкоў, Татар Крыму і другіх аўтары адносяць да «некаторага парушэньня прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі», якую партыя пасталалася паправіць, устанаўляючы зьліквідаваныя ў свой час нацыянальныя рэспублікі (б. 37).

Адным словам у СССР усё ў парадку. Вынішчэньне сьведамае нацыянальнае верхавіны, ліквідацыя нацыянальных цэркваў, прасьледваньне самабытнае культуры народаў, зьнішчэньне помнікаў старажытнасьці, сталае праводжаньне русыфікацыі мовы, сталае прышчапленьне расейскага патрыятызму — усё гэта нармальнае зьявішча, рэзультаты змаганьня партыі за «камуністычнае» выхаваньне грамадзтва. Нацыянальныя праявы ў савецкіх «свабодных» народаў будуць выкараняцца і ў далейшым: «Мы заўсёды былі і будзем супраць праяваў рэакцыйнага нацыяналізму, у якой-бы форме ён не праявіўся. Нацыяналізм цяпер ня мае ў нас сацыяльнай, клясавай базы, але нацыяналістычныя перажыткі могуць зараджацца яшчэ ў дзеяньнях паасобных дзейнікаў у самых розных формах, як прыкладам у ідэялізацыі феадальнага прошлага . . .» (б. 25).

У якога народу найбольш праяўляецца «рэакцыйны нацыяналізм», можна бачыць з савецкай гісторыяпісі: яна пайменна ідэялізуе гісторыю расейскага народу, уключна зь ідэялізацыяй імпэрыялістычнай палітыкі царскае Расеі. Найлепшым доказам хай будзе канцэпцыя пра «самы прагрэсыўны народ — Расейцаў», ды гэты плач пра «разьдзел Расеі» заходнімі імпэрыялістычнымі гаспадарствамі.

Тут хацелася-б зьвярнуць увагу на наступную дэклярацыю: «Савецкі Саюз заўсёды падтрымоўваў і будзе падтрымоўваць народы Ўсходу ў іхняй барацьбе за свабоду і нацыянальную незалежнасьць» (б. 20). Пасьля гэтага зусім не зразумелым зьяўляецца становішча заходніх дзяржаваў у вадносінах да падсавецкіх народаў: імкнуцца яны да пабудовы нацыянальных дзяржаваў з мэтаю калянізацыі Расеі, у чым іх абвінавачваюць бальшавікі, ці да захаваньня цэласьці гэтае імпэрыі?

**П. Залужны**

# Драматургі маўчаць

На апошнім Пленуме Саюзу Пісьменьнікаў БССР стаўся ўсім відавочны трывожны стан беларускай савецкай драматургіі. У саракавыя ўгодкі кастрычніцкага юбілею яна сьвеціцца амаль што пустым месцам у беларускім мастацтве. Узьняць трывогу аб гэтым змушаны былі і партыйнае савецкае кіраўніцтва і гэтак званы «грамадзкі актыў». Маўчаць беларускія драматургі, а калі што і скажуць, дык нешта нявыразнае, слабое, што не задавальняе ані партыю, ані тым больш гледача. Запраўды нацыянальнай беларускай п'есы няма ў ніводных тэатрах БССР. Яўны скандал! Чым пацьведзіць тут «мудрую нацыянальную палітыку» партыі, ейныя клопаты, апеку, «надзвычайныя» ўмовы працы і жыцьця савецкіх творцаў? Улада ўжывае і спосабы заахвочваньня — нічога ня выходзіць. Драматургі ўпарта адседжваюцца моўчкі.

Чым-жа тлумачыцца такое прыкрае для савецкай улады становішча? Стандартным, штампаваным, уніфікаваным адказам падаецца, што «драматургі недастаткова глыбака праніклі ў жыцьцё», не праймаюцца неадкладнымі заданьнямі партыі, ня бачаць гэраізму ў савецкай штодзённасьці не захапляюцца перавыхаваньнем савецкіх людзей. Але наўрад ці хто будзе задаволены такім адказам. Кажнага цікавіць, чаму-ж тая, быццам натхняючая, паэтычная савецкая рэчаіснасьць не ўкладаецца ў мастацкія формы, не дае навет самых сьціплых вынікаў? Чаму ад яе гэтак адштурхоўваюцца пісьменьнік, мастак, музыка? Значыцца, у самым савецкім жыцьці, у савецкай сыстэме закладзена штосьці такое, што ідзе супраць прыроды мастацтва, што абніжае яго, руйнуе ягоныя высокія прынцыпы. Цяпер ясна ня толькі савецкаму чалавеку, што савецкая рэчаіснасьць зусім не такая, як яе малююць партыйныя кіраўнікі.

Трагэдыя беларускіх савецкіх драматургаў палягае ў тым, што яны, якраз глыбака ведаюць запраўднае жыцьцё беларускага селяніна, работніка, інтэлігента. Ведаюць, ды перадаць, адлюстраваць, увасобіць гэтага ня могуць. Ці мала было спробаў паказаць у драматургіі «праўду сэрца», ды чым скончыліся гэтыя спробы? Загубаю жыцьця, выгнаньнем, забаронай пісаць, пазбаўленьнем і так абмежаваных грамадзкіх правоў. Мастак — прадстаўнік народу, а праўда народу зусім іншая, чымся «праўда» партыі.

У савецкай тэндэнцыйнай, партыйнай драматургіі няма месца высокім пачуцьцям каханьня, веры сямейным сувязям, асабістым імкненьням, індывідуальным якасьцям чалавека. Як толькі яны пакажуцца ў п'есе, дык на драматурга сыплюцца абвінавачаньні, закіды, дакоры ў ідэйных хібах — ён падпадае пад жорсткую партыйную крытыку. Драматургу загадваюць пісаць аб тых людзях, якія ў запраўднасьці ня існуюць, адлюстроўваць тое, што ня ёсьць мастацкай катэгорыяй. У аднаго беларускага крытыка выпадкова вырваўся афарызм, за які яму добра наклалі па карку, але які ўзапраўды адказвае рэчаіснасьці. «Беларускія мастакі, — казаў гэты крытык, — гнятуць сваю леру». Так: не ствараюць, а гнятуць, як рамесьнікі, як нявольнікі ў ярме, прымусова праз сілу. Вось дзе хаваецца істотная прычына крызысу савецкага мастацтва, а ў нашым выпадку — беларускай савецкай драматургіі. Беларускія аўтары маўчаць не таму, што ня маюць чаго сказаць, але таму, што іхная «праўда сэрца» выкрыла-б партыйную ілжу, а гэта пагражала-б ня толькі іхняй пісьменьніцкай кар'еры, але і жыцьцю. А гнясьці сваю леру драматургам прыкра, яны ўважаюць гэта за зраду мастацтву. Таму яны маўчаць — маўчаць, пакуль гэта ў савецкіх умовах магчыма.

**М К.**

# Амэрыканскі часапіс пра Купалу й „Спадчыну“

Амэрыканскі ўнівэрсытэт штату Індыяна выдае часапіс «The Slavik and East European Journal'. У сёлетнім трэйцім нумары гэтага часапісу зьмешчаная зацемка пра Я. Купалу й пра выданы «Бацькаўшчынай» збор Купалавых твораў «Спадчына». Аўтар зацемкі — вялікі прыяцель Беларусаў, ведамы ўкраінскі паэта Яр Славутыч, спад пяра якога выйшла цімала мастацкіх перакладаў вершаў беларускіх ў украінскую мову.

У амэрыканскім часапісе дадзеная кароткая характарыстыка творства выдатнага беларускага песьняра. У ім мы чытаем таксама: «Пасьля акупацыі Беларусі расейскімі камуністымі, Купала пісаў вельмі мала. Пратэстуючы супраць савецкае палітыкі, ён прабаваў скончыць самагубствам, але быў адратаваны. У 30-я гады ён жыў пад наглядам савецкае тайнае паліцыі (ды быў нат змушаны хваліць камунізм. У 1942 г. другая спроба самагубства яму ўдалася. Хоць Купала ня жыве больш, ягоныя творы й надалей натхняюць Беларусаў на змаганьне за свабоду. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва зрабіў выдатную справу, выдаючы збор выбраных твораў Купалы».

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Камунізм пераходзіць да наступу

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

гармонію між Масквой і Пэкінам у ідэялягічных і палітычных пытаньнях. Мао-Тсэ-Тунг спачатку плянаваў пасьля Масквы адведаць Варшаву й Бэльград. Аднак у вапошні мамэнт гэтую візыту адклікаў, каб не салідарызавацца зь Югаславіяй і Польшчай у іхным унезалежніваньні ад маскоўскага цэнтру. Цікава што й Гамулка, вярнуўшыся з Масквы ў Варшаву, загарантаваў вернасьць усім пастановам маскоўскай канфэрэнцыі і сьціраваў войстрае абвінавачаньне пад адрысам Амэрыкі, ня гледзячы на тое, што Польшча чакае амэрыканскае дапамогі.

Камуністычны блёк, гэтак скансалідаваўшыся й вызнаўшы над сабой правадырства Савецкага Саюзу, пераходзіць да больш узмоцненага наступу супраць вольнага сьвету, робіць стаўку на сьветавы камунізм і пагражае навет ужыцьцём фізычнае сілы для забясьпечаньня перамогі камунізму.

Як заходні сьвет пачынае рэагаваць на гэтыя новыя камуністычныя ходы, будзе мова ў наступным нашым артыкуле.

**Язэп Каранеўскі**

# Творы Максіма Багдановіча [14)]

### ЗАХАД

**(З Вэрлена — пераклад з француcкае)**

Слабне золак, згарае —
І нячутна, паволі
Смутак свой разьлівае
Захад сонца у полі.
Смутак свой разьлівае
Сьпеў ласкавы аб долі,
Душу цеша, сьцішае
Захад сонца у полі.
Сны у ёй вынікаюць,
Як на сінім абшары,
Устаюць і сплываюць
Ў блеску заходу мары.
Устаюць і зьнікаюць
Сноў цудоўныя чары,
Быццам тонуць і зьзяюць
Ў блеску заходу мары.
1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з французкае)**

Покуль, зорка, ўраньні твой
Бледны блеск яшчэ зіяе,
— Між травой
Перапёлак цьма сьпявае.

Абярніся, глянь ка мне
Ў вочы, поўныя каханьня,
— К небу мкне
Стая жаваранкаў зраньня.

Кінь пагляд, што ледзь відаць,
Бо нябёсы зьзяюць сіне,
— Шум чуваць,
Гул вясёлы у даліне!

І каханьня думкі ўдаль
Панясі на сьветле шпарка,
— Быццам сталь,
Траў раса бліскае ярка.

К мілай, што салодка сьніць,
Іх прымчы цераз ваконца . . .
— Трэ сьпяшыць,
Бо вось-вось зазьзяе сонца!
1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з французкае)**

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячорны шэра-ружаваты;
І на крылах, цішэй за вецярка,
Ў паветры мяккім слаўным паплыла ты
Пужліва, песьня, і ў пакоях хаты
Йшчэ доўга веяў пах, як ад квятка.

Што за калыска ціха так гайдае
Стамлёнага, бяздольнага мяне?
Чаго, як жэўжык, песьня вымагае?
І што ў канцы яе прыпеў жадае,
Каторы гэтак хутка у вакне,
Адчыненым на садзік, замірае?
1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з французкае)**

У полі змрок
Нуда бяз краю;
Сьнег чуць блішчае,
Як той пясок.

Без прамянёў
Нябёсы зь медзі.
Ах, каб угледзеў
Я месяц зноў!

Як стая хмар,
Дубнік шарэе
І ледзянее
Там, дзе папар.

Без прамянёў
Нябёсы зь медзі.
Ах, каб угледзеў
Я месяц зноў!

Гурткі худых
Ваўкоў з крукамі!
Што будзе з вамі
Ад віхраў злых?

У полі змрок,
Нуда бяз краю;
Сьнег чуць блішчае,
Як той пясок.
1912

—◇—

### МАЛЮНАК МОРА

**(З Вэрлена — пераклад з французкае)**

Акіян дрыжыць
Пад пагдядам сумным
Месяца, і ў шумным
Гуле йшчэ бурліць

Ў час, калі агнём
Ўраз нябёсы крае
І у цьме зіяе
Бліскаўкі залом,

# Колькі аркушаў бессаромнай хвальсыфікацыі

Сорак гадоў беларускай савецкай літаратуры... Гэтая тэма сапраўды магла-б быць карыснай, калі-б за яе ўзяліся сумленныя і вольныя ад партыйнага ціску літаратуразнаўцы. Але ў Савецкай Беларусі такім людзям няма месца на літаратуразнаўчым фроньце.

Саветы зьнішчылі лепшых беларускіх крытыкаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры накшталт Адама Дабарэкі, Максіма Гарэцкага, Фэлікса Купцэвіча, Уладзімера Дзяржынскага, Піотуховіча, Вазьнясенскага і іншых. Замест іх на паверхню вылезьлі партыйныя падлізьнікі тыпу Алеся Кучара. Гэтыя апошнія ня цікавяцца запраўднымі мастацкімі вартасьцямі літаратуры. Яны толькі глядзяць, каб не адыйсьці ад партыйнай лініі ды не зрабіць ухілу. Таму не даводзіцца дзівіцца, што артыкул аб беларускай літаратуры за 40 гадоў савецкай улады, прыняты сэкцыяй крытыкаў Саюзу савецкіх пісьменьнікаў Беларусі, быў напісаны якраз Алесям Кучарам і ягонымі спадручнымі.

Гэта той самы Айзік Кучар, які ў 1931 годзе разам з партыйным аглобельным крытыкам Лукашом Бэндай глуміўся над беларускай літаратурай на балонках часапісу «Маладняк» у сэрыі артыкулаў «Матар'ялы для нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры». Гэта той самы Айзік Кучар, які пэцкаў чорнай хварбай усю творчасьць выдатных мастакоў беларускай літаратуры, зьдзекваўся і абліваў памыямі творчасьць Купалы, Коласа, Бядулі, Багдановіча і іншых.

Спрытны прыстасаванец да патрэбаў надзённае палітыкі партыі, Кучар цяпер падае Купалу і Коласа ў іншым сьвятле. Але ён зноў вылівае на балонах свайго артыкулу ў 9-ым нумары «Полымя» за гэты год цэлыя цэбры ядавітае хлусьні на іншых выдатных і заслужаных дзеячоў беларускай літаратуры і культуры. Ён бессаромна брэша на дзеячоў «Нашай Нівы» і называе «балотам рэакцыі» братоў Луцкевічаў, слаўнага паэту-патрыёта Алеся Гаруна. Беларускую Раду і Беларускую Вайсковую Раду Кучар і Карпаў завуць прыслужнікамі і лёкаямі імпэрыялістых.

Тут скрозь у гэтай тэрміналёгіі відаць руку партыі. Гэткая крытыка зьяўляецца сапраўды лёкайскай службай у партыйных верхаводаў. Дзе ні глянь — усюды хвальсыфікацыя. Ёю запоўнены ўсе бачыны гэтае «крытычнае» пісаніны. Выхваляньне камуністычнае партыі і камсамолу скрозь мяжуе з нападкамі на нацыянальны кірунак беларускае савецкае літаратуры 20-х гадоў, на выдатнейшых мастакоў слова, як Міхась Зарэцкі, Уладзімер Дубоўка, Алесь Дудар. Імя слаўнага празаіка Максіма Гарэцкага ня згадваецца зусім. Маўчаць аўтары нарысу і пра выдатнага культурнага дзеяча Вацлава Ластоўскага. Яны абмінаюць поўным маўчаньнем плённую і багатую драматургічную дзейнасьць бацькі беларускага тэатру Францішка Аляхновіча і стваральніка беларускага тэатру Уладыслава Галубка.

Аўтары нарысу выхваляюць «дабрадзействы» партыйнага дыктату — пастанову ЦК партыі 23-га красавіка 1932 году аб ліквідацыі ВАППУ, РАППУ, БЕЛАППУ і іншых літаратурных аб'яднаньняў. Але пры гэтым яны маўчаць аб тым, што ліквідацыя розных пісьменьніцкіх арганізацыяў і стварэньне адзінага пісьменьніцкага калгасу — Саюзу савецкіх пісьменьнікаў — пацягнула за сабой нівэляваньне савецкае літаратуры і падначаленьне яе аднаму афіцыйна дазволенаму творчаму мэтаду, гэтак званага «сацыялістычнага рэалізму». Гэта давяло да тае шэрасьці і аднастайнасьці, якія сяньня ўжо адштурхнулі шмат савецкіх чытачоў ад савецкай літаратуры. Прымусовае накіданьне гэтага мэтаду спалучылася ў савецкай літаратуры з разгортваньнем жорсткага крывавага тэрору. У выніку гэтага тэрору беларуская літаратура страціла сваіх лепшых мастакоў, як Зарэцкі, Вольны, Дудар, Дубоўка, Гарэцкі, Мрый, Галубок, Таўбін, Астапенка, Калюга, Шашалевіч, Аляхновіч, Маракоў, Хадыка, Баранавых, Галавач, Астрэйка, і шмат маладых, здольных пачынальнікаў. I калі аўтары нарысу бяруць зноў пад сваю абарону крывавую дзейнасьць воргану ГПУ, НКВД, МВД пад выглядам неабходнасьці «выкрыцьця ідэялягічных агентаў буржуазіі, нацыяналістых» і гэтак далей, дык гэта толькі доказ, што такія камуністычныя лёкаі, як Кучар і яму падобныя, гатовыя і цяпер служыць прыладай чырвонага тэрору супраць сумленных мастакоў.

**Х.**

# Увага фальклёрным запісам

Артыкул, зьмешчаны ў «Бацькаўшчыне» (№ 46) аб запісах беларускага фальклёру, кранае вельмі важнае пытаньне, да якога і трэба нам аднесьціся сур'ёзна з кажнага гледзішча. Перш за ўсё прынцыповы бок справы. Ці варта наагул нам тут на эміграцыі, адарваным ад беларускае глебы, займацца запісамі народнай творчасьці? Гэткія гутаркі іншы раз чуваць у нашым асяродзьдзі.

На маю думку, рабіць фальклёрныя запісы тут на эміграцыі ня толькі магчыма, але і вельмі неабходна і карысна. У запраўднасьці запісы беларускага фальклёру пры бальшавіках спыніліся пасьля 20-ых гадоў. Пасьля гэтага фальклёрныя запісы калі й рабіліся ў БССР, дык ужо ў вельмі вузкім пляне, толькі для заданьняў прапаганды, якая бязьлітасна хвальшавала народную творчасьць, выкідаючы зь яе найбольш істотныя рысы, усю ейную прыгажосьць і своеасаблівасьць.

Гэтак зусім спыніліся запісы рэлігійнага (духоўныя вершы), гістарычнага, абрадавага, сямейнага фальклёру. У Савецкай Беларусі ня толькі зьявіліся няспрыяльныя абставіны дзеля фальклёрных запісаў, але й сама справа губляе сваю традыцыйную глебу. Старое пакаленьне вымірае, а маладое ў бальшыні сваёй адстала ад старой беларускай песеннасьці, паколькі яго ўзгадоўваюць на савецкіх штампаваных і трафарэтных вузорах масавай песьні. Усё пытаньне фальклёрных запісаў набывае там даволі трагічны характар.

Затое мы тут, хаця й на чужыне, але маем вялікія магчымасьці значна папоўніць, аднавіць, навет унесьці сьвежую плынь у беларускую народную песеннасьць. Мы маем яшчэ бадзёрых і здаровых прадстаўнікоў старэйшага пакаленьня, яшчэ добра ведаючых ўзоры песьні. Апрача таго, мы маем і некаторую частку нашай моладзі, што цікавіцца беларускай песьняй, добра яе ўспрыймае, карыстаецца ёю ў грамадзкім і хатнім жыцьці. Да таго, — таксама вельмі важная рэч — мы маем тут і выдатныя тэхнічныя магчымасьці запісаў — рэкордэры й магнэтафоны, якія дакладна, без памылак запішуць песьню, захаваюць яе для дасьледваньня й апрацоўкі.

Тым ня меней справа запісаў зусім ня так лёгка разьвязваецца, як гэта многім здаецца. Перш за ўсё той, хто насьпявае песьню, мусіць заслугоўваць на поўны давер з боку правільнага пераданьня песьні, яе музычнага й тэкставага зьместу. Якраз таму ўсе зьбіральнікі фальклёру й раней асабліва цанілі старэйшых людзей, якія песьню ня толькі ведалі на слух, але зжыліся зь ёю, на якіх ня дзеілі (або дзеілі ў вельмі малой ступені) чужыя ўплывы. Адным словам тут ходзіць аб чысьціню песьні з боку яе беларускасьці. Трэба прызнацца, што наш эміграцкі быт не заўсёды можа пахваліцца гэтымі якасьцямі. У нашым сьпяваньні за шмат розных іншых матываў, зваротаў, напеваў, што прыйшлі за час эміграцыі і навет паміма нашае волі ў тэй ці іншай меры ўвайшлі ў нашую песьню. Зусім зразумела, што такія рэчы ня варта й фіксаваць на істужку ці плітку.

Далей важнай справай ёсьць вартасьць песьні й з боку ейнага зьместу. Нам асабліва цікавыя будуць якраз тыя ўзоры песеннасьці, што цяпер вынішчаюцца ў БССР. Я маю тут наўвеце як старую беларускую песеннасьць, гэтак і тое, што складалася на эміграцыі, як выражэньне быту палітычных эмігрантаў. Далей патрыятычныя песьні і сатырычныя (прыпеўкі), калі-б і ня былі высока якаснымі паводля музычнае пабудовы, дык мелі-б значную цікавасьць ня толькі для папаўненьня рэпэртуару, але наагул для гісторыі нашае эміграцыі.

Такім чынам пытаньне запісу беларускага фальклёру на эміграцыі набывае на толькі паважную ролю, што яго трэба разьвязаць у якім-небудзь цэнтры нашага культурна-грамадзкага жыцьця. Такою ўстановаю ёсьць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, які павінен за свой пачэсны абавязак палічыць ачоліць усю справу запісу беларускага фальклёру на эміграцыі, складаньне фаховых парадаў, даручэньняў практычнага ажыцьцяўленьня сваім аддзелам і паасобным сябром і г. д.

Думаю, што мы ўжо на толькі падмацаваныя матарыяльна й тэхнічна, што можам усю гэтую справу разьвязаць не па кутках і ня прыпадкова, але арганізавана й сцэнтралізавана.

**М. Куліковіч**

# Памёр Янка Чарапук-Змагар



**Да нас дайшла сумная вестка, што 16 лістапада сёлета памёр у Чыкаго выдатны змагар за дзяржаўную незалежнасьць Беларускага народу, міністар надзвычайных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі й старшыня Сэктару Рады БНР ў Чыкаго сьвятой памяці**

**Янка Чарапук-Змагар.**

**Спэцыяльны артыкул аб жыцьці й дзейнасьці сьв. памяці Чарапука будзе зьмешчаны ў наступным нумары нашае газэты.**

## Паховіны Янкі Чарапука Змагара

Паховіны Янкі Чарапука-Змагара адбыліся дня 20 лістапада 1957 г. у Чыкаго пры ўдзеле пахавальнага бюра Музыкі і сына вельмі ўрачыста. Вянкі і кветкі былі зложаныя ад наступных арганізацыяў і асобаў: ад прэзыдэнта БНР інж. Міколы Абрамчыка, Рады БНР (Аддзел у Чыкаго), Згуртаваньня Беларусаў Штату Ілінойс, Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкаго, Беларускай Царквы, парахвіі Сьвятога Спаса, Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Кліўляндзе, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (Аддзел Піорыя), д-ра Станіслава Грынкевіча, сям'і М. Махначоў і Чарнэцкіх, сям'і Ядвігі Чарнэцкай, сям'і В. І. Пануцэвічаў, сям'і А. Л. Беленісаў, сп. Міхася Беламука з Кліўлянду, сям'і Палюховічаў, Прэзыдыюм Рады БНР.

Дамавіна была пакрытая беларускім нацыянальным сьцягам, а адпяяльныя малітвы 19, 20 лістапада ды ўрачыстую жалобную імшу ў царкве сьв. Алёйзага адправіў а. Янка Тарасэвіч. Ён-жа і сказаў прынагоднае казаньне аб памёрлым, падкрэсьліваючы ягоныя вялікія заслугі для беларускага народу, ягоны патрыятызм і нацыянальны энтузіязм. Цела нябожчыка супачыла на каталіцкім магільніку сьв. Вайцеха ў Чыкаго. З апошняй прамовай над магілай выступаў д-р Станіслаў Грынкевіч. Пасьля адбылася пахавальная страва ў паблізкім клюбе, у часе якой з прамовамі выступалі: Янка Чарнэцкі, д-р Станіслаў Грынкевіч, ген. М. Дзямідаў, сп. Міхась Беламук і д-р П. Гайдзель. Усе прамоўцы ўспаміналі свае ўражаньні аб памерлым, падкрэсьлівалі ягонае сяброўства, чуласьць на патрэбы сваіх родзічаў, патрыятызм, рэлігійнасьць і высілкі ў кірунку разьвіцьця беларускай справы.

# Радыё ў Чыкаго з прычыны сьмерці Я. Чарапука

**Прадстаўнік Рады БНР 17 лістапада сёлета цераз радыёстанцыю ў Чыкаго з прычыны сьмерці сьв. пам. Янкі Чарапука-Змагара сказаў наступную прамову:**

Дарагія браты Беларусы!

Учора 16 лістапада 1957 г. ня стала ў нашых радох аднаго з выдатных барацьбітоў за дзяржаўнае вызваленьне Беларускага народу сьвятой памяці Янкі Чарапука-Змагара, міністра надзвычайных справаў Беларускай Народнай Рэспублікі, актыўнага беларускага дзеяча ў Амэрыцы, сябры Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, Згуртаваньня Беларусаў Штату Ілінойс, старшыні Чыкаскага Аддзелу Рады БНР.

Сьвятой памяці Янка Чарапук-Змагар нарадзіўся 12 жніўня 1896 г. у Новым Двары, Сакольскага павету, б. Горадзенскай губэрні. Сярэднюю школу скончыў у Горадні, а наступна быў студэнтам права й эканамічных навукаў Пецярбурскага ўнівэрсытэту. У часе рэвалюцыі 1917 г. уключыўся ў вызвольны беларускі рух, а ў 1918 годзе належаў да выканаўчых ворганаў Беларускай Народнай Рэспублікі як надзвычайны пасол міністэрства замежных справаў, а потым, як самастойны прадстаўнік Рады БНР у спэцыяльных даручэньнях.

Сваёй высока-ахвярнай дзейнасьцю спрычыніўся нямала для беларускай нацыянальна-вызвольнай справы і навязаньня сувязяў з заходнімі краінамі. Як запраўдны патрыёт быў цьвёрдым, непахісным у змаганьні, называў сябе Змагаром і Беларускім зубром і даваў прыклад нацыянальнай стойкасьці маладому пакаленьню. Сьпі, дарагі Змагар, сном справядлівых на вольнай зямлі Вашынгтона, сьпі спакойна, бо сьцяг барацьбы, падняты Табою, пераняты тваімі сябрамі, якія будуць нясьці яго да перамогі. Хай Усемагутны Бог пашле Табе вечны супакой!

---

I на міг відаць,
Як ў бурнай далі
Б'юць аб скалы хвалі,
Зігацяць, грымяць

I да неба мкнуць,
Дзе вятры бушуюць,
Дзе грымоты злуюць,
Грукацяць і б'юць.

1912

—◇—

### САНТЫМЭНТАЛЬНАЯ ГУТАРКА

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

У полі дзікім і апусьцелым
Праходзяць ночы дзьве мары ў белым.

Мяртвыя вочы, блядыя чолы
I словы з вуснаў зьлятаюць квола.

У полі дзікім і апусьцелым
Аб пройшлым шэпчуць дзьве мары ў белым.

— „Ты наша шчасьце ці ўспамінаеш?" —
— „Нашто-ж ты гэта цяпер жадаеш?" —

— „Ці б'ецца сэрца, хоць проці волі,
Пачуўшы імя маё?" — „Ніколі". —
— „Вясёла, моцна і так прыгожа
Кіпела наша каханьне". — „Можа". —

— „Сінела неба, расла надзея..."
— „Надзей няма ўжо, і сьвет цямнее".

Так шэпчуць мары, ўкруг — дол аўсовы,
I чуе толькі ноч тыя словы.

1912

—◇—

### ЗІЯНЬНЕ МЕСЯЦА

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Душа твая — малюнак артыстычны:
Пад лютняў звон прыгожы масак рой
Танцуе там, адзеўшыся нязвычна,
Ў надзеі скрыць праз гэта смутак свой.

На ціхі лад усе яны сьпяваюць
Пра мір жыцьця і сьветлую любоў,
Ды веры ў шчасьце сьпевы іх ня маюць,
I зь ясным сьветлам зьліты зыкі слоў,

Ізь сьветлам месяца прыгожа-смутным,
Ад чар чыіх на дрэвах птушкі сьняць,
I лёгкія бруйкі ў плачы чутным
Між мармараў натхненна зігацяць.

1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Гул вулічных шынкоў; панэльны бруд; каштаны
Старыя; зь іх ляціць праз дымныя туманы
Рой лісьця; амнібус, каторы грукаціць
Зялезам і між кол рыпячых ледзь сядзіць,
Зялёны аганёк з чырвоным, быццам вочы,
Варочаючы ўкруг; і зь люлькі дым рабочы
Пушчае, ідучы, паліцыянту ў нос;
Капеж з дамоў на брук, што бачыў шмат калёс;
Асфальт затоптаны, з канаўкамі па краю
Дзеля памый... Такі мой шлях, ідучы к раю.

1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Ноч. Дождж. Нябёс імгла. Абрысам цёмным рэжа
Гатычны горад іх. Стаяць скразныя вежы
I дахі гострыя, зьнікаючы ў далі.
Пляц. Шыбеніц вяроўкі, ад зямлі
Падняўшы мерцьвякоў, пад ветрам іх гайдаюць,
Як у танку. Крукі ўжо хціва разьдзіраюць
Ім цела. Ногі іх — здабыча для ваўкоў.
Кусты цярновыя ды некалькі дубкоў
Ўздымаюць там і сям пасохлыя галіны
К лясом, чарнеючым у глыбіне карціны.
I артыштантаў трох, сьсінелых і басых,
З бакоў вядзе чарга здаровых вартавых,
Трымаючы мячы, блiскучыя, прамыя,
I проці іх зь нябёс б'юць стрэлы дажджавыя.

1912

—◇—

### З КРЫМСКАГА

**(Пераклад з украінскае мовы)**

Кажуць людзі, быццам, творачы мужчыну,
Бог зрасіў вадою высахлую гліну,
Але чорт падкраўся: выцiснуўшы воду,
Падмяшаў ён сьлёзы ў нашую прыроду.

Нудзяць нас праз тое цягам смуткі, жалі,
I адзін ратунак, каб яны маўчалі:
Выплакаць іх шчыра, голасна ці ціха,
Каб зь сьлязамі разам вылілася ліха.

Ох, мне з гэтым лекам ачуняці трудна,
Сьлёзаў я ня маю, а ў душы так нудна.
Ўжо яна згарэла, а ня плачуць вочы,
Ужо зьмлела сэрца, сьлёзы-ж ліць ня хоча.

1912

—◇—

**(Далей будзе)**

# Зь беларускага жыцьця

## СЬВЯТКАВАНЬНІ ЎГОДКАЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

### у Манчэстэры

У нядзелю 1-га сьнежня г.г. Беларусы Манчэстэру й ягоных ваколіц годна адзначылі 37-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

А гадз. 12-ай у англіканскай царкве сьв. Яна пратаерэй а. А. Крыт адслужыў сьв. Літургію й паніхіду па героях загінуўшых у Слуцкім Паўстаньні й сказаў прынагоднае прыгожае казаньне.

Акадэмія адбылася ў сьвятліцы Беларускага Дому. Адчыніў яе старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ сп. М. Яськевіч, на прапанову якога прысутныя ўшанавалі памяць случчакоў мінутнай цішай. Далей сп. Яськевіч прачытаў даклад аб значэньні Слуцкага Паўстаньня й аб уплыве яго на далейшы вызвольны рух, а таксама схарактарызаваў змаганьне Беларусаў у апошняй сусьветнай вайне.

На просьбу старшыні мясцовага аддзелу ЗБВБ пратаерэй а. Аляксандар даў даклад аб дзейнасьці ў вызвольна-адраджэнскім руху тых случчакоў, якія былі апынуліся на эміграцыі.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем жалобнага маршу «Сьпі пад курганам герояў».

**М. Стаўпіскі**

### У ПАРЫЖЫ

У нядзелю 24-га лістапада парыская калёнія Беларусаў урачыста адзначыла 37-ыя ўгодкі Слуцкага Чыну.

Перад абедам а. Леў адслужыў урачыстую Багаслужбу ў беларускай капліцы. Да глыбіні сэрца ўзрушыла прысутных прынагоднае казаньне а. Льва.

Пасьля гэтага ў залі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася ўрачыстая акадэмія, кароткі ўступ да якое зрабіў старшыня Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі сябра М. Наўмовіч. Потым прысутныя праслухалі з магнэтафону магутную песьню «Партызанская».

Рэфэрат аб Слуцкім паўстаньні прачытаў сябра В. Міцкевіч. На заканчэньне афіцыяльнай часткі горача й падбадзёрваюча прамаўляў а. Леў.

У праграму мастацкае часткі ўвайшлі беларускія народныя песьні перададзеныя з магнэтафону ў выкананьні: беларускага студэнцкага ансамблю ў Лювэне, М. Забэйды Суміцкага ды сяброваk Ніны Дударэвіч і Веры Міцкевіч.

Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Прысутныя разьехаліся дадому зь верай, што традыцыі нашы не загінуць і высілкі ўсяго беларускага народу прывядуць да зьдзейсьненьня нашых нацыянальных ідэялаў.

**Прысутны**

### ІНЖЫНЕР А. ЛАЗАНАЎ

У гэтым годзе на Лювэнскім Унівэрсытэце закончыў студыі сп. Аляксандар Лазанаў, атрымаўшы дыплём інжынера капальняў.

Ягоная дысэртацыя — «Эксплятацыя вугальных капальняў у басэйне Шарлеруа». Цяпер інж. А. Лазанаў атрымаў працу ў сваёй прафэсіі ў дасьледавальным бюры.

Інж. Лазанаў, які паходзіць з Браншчыны, на працягу сваіх студыяў у Лювэне быў заўсёды актыўным сябрам у нацыянальна-грамадзкай працы беларускае студэнцкае групы ў Лювэне, зь якой і надалей трымае найцясьнейшы кантакт.

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» із свайго боку жадае маладому інжынеру шмат удачаў як у прыватнай так і грамадзкай працы.

### КСЁНДЗ Ч. СІПОВІЧ У ТАРОНТА

10-га лістапада наведаў нас кс. Ч. Сіповіч, які паінфармаваў мясцовых Беларусаў аб жыцьці нашых суродзічаў у Эўропе, а таксама падзяліўся сваймі ўражаньнямі з падарожжа ў ЗША. У нядзелю ў лятувіскім касьцеле ён адслужыў імшу для Беларусаў-каталікоў, дзе прысутнічала ладная грамада верных.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ ДНЯ ГЭРОЯЎ У ТАРОНТА

Беларусы Таронта сьвяткавалі сёлета Дзень Гэрояў 24-га лістапада. Раніцай, па сьля Сьв. Літургіі ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага адслужаная была пры масавым удзеле вернікаў, паніхіда за загінуўшых змагароў за Беларусь. Пасьля паўдня а гадз. 4-й адбылася акадэмія ў вялікай залі на рагу Дандэс-Асінгтон. З нагоды Дня Гэрояў гаварыў сп-р д-р Жук. Пасьля сьпяваліся народныя песьні. Выконвала іх сп-ня Л. Рагуля солё і ў дуэце із сп-няй Н. Барановіч. Ул. Барановіч і д-р Р-са Жук дэклямавалі вершы. На заканчэньне была перайграная перадача радыя «Вызваленьне» на бацькаўшчыну з нагоды Дня Гэрояў. Гэтак сёлетняе сьвяткаваньне было урачыстым, паважным і разьлічаным больш на духовы чымся прапагандовы эфэкт.

Мясцовая найбольшая тыражом газэта «Дэйлі Стар» зьмясьціла зацемку аб сьвяткаваньні Беларусамі Ддя Гэрояў.

# Карыснае выданьне

**Г. НЯМІГА. «ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ — БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК — АКАДЭМІЯ НАВУК БССР; ВЫД. ІНСТЫТУТУ ДЛЯ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР, ДОСЬЛЕДЫ Й МАТАР'ЯЛЫ, СЭРЫЯ 2-АЯ, ВЫПУСК 63, МЮНХЭН, 1957, БАЧ. 162.**

«Выдатную ролю ў разьвіцьці ўсебаковае нацыянальнае дзейнасьці ў Беларусі, асабліва ў гады НЭП-у, згулялі Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт) — Беларуская Акадэмія Навук. Тымчасам, ні ў эміграцыі, ні тым больш у БССР, дагэтуль няма яшчэ аніводнай працы, прысьвечанай гісторыі ўзьнікненьня, разьвіцьця й чыннасьці гэтых вышэйшых навукова-дасьледавальных інстытуцыяў.» — піша ў прадмове да гэтае працы сам аўтар.

І запраўды, за выняткам тых нашых суродзічаў, якія былі ў той ці іншай меры зьвязаныя зь беларускай нацыянальнай дзейнасьцяй часоў «нацдэмаўшчыны», ці якія адмыслова дасьледуюць і вывучаюць гэны пэрыяд нашага мінулага, сяньня мала хто ведае пра тыя слаўныя бачынкі разьвіцьця й дзейнасьці першых беларускіх вышэйшых навуковых інстытуцыяў, пра ўпорысты супраціў іх саветызацыі й русыфікацыі, пра тыя вялізарныя ахвяры панесеныя ў вабароне беларускае навукі й культуры наагул.

Праца-ж Г. Нямігі якраз і запаўняе нам гэты прабел. І хаця «аўтар... не маніўся й не маніцца на канчальную і ўсебаковую вычарпальнасьць тэмы» — ягоная праца мае вялізарнае значаньне ня толькі для нас, але й для тых навукоўцаў і дасьледнікаў, якіх цікавіць беларуская праблематыка.

Сваю працу аўтар падзяліў на тры часткі: І. Інстытут Беларускай Культуры — пара зараджэньня й росквіту незалежнага навуковага вывучэньня роднага краю, ІІ. Беларуская Акадэмія Навук — пара наступу й перамогі бальшавізму, ІІІ. Акадэмія Навук БССР — пара канчальнага ператварэньня Акадэміі ў вышэйшага маштабу прапагандны дадатак акупацыйнага рэжыму.

**Частка І.** У ёй разглядаюцца наступныя пытаньні: стан навуковага дасьледваньня гісторыі й культуры Беларусі да рэвалюцыі 1017 году, першыя крокі да ўтварэньня беларускай вышэйшай навукова дасьледавальнай установы, першыя гады працы ў рамках Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, першая рэарганізацыя Інбелкульту, вылучэньне Інбелкульту ў самастойную навукова-дасьледавальную ўстанову, рэформа Інбелкульту 1927 году, Інбелкульт на шляху да Беларускай Акадэміі Навук (дзейнасьць 1927-28 г.).

**Частка ІІ.** Абыймае наступныя пытаньні: Пачатковая дзейнасьць Беларускай Акадэміі Навук (БАН), бальшавіцкі пагром БАН-у, «чыстка» БАН і «выбары» новых акадэмікаў, рэарганізацыя БАН і ейная дзейнасьць пасьля камунізацыі, далейшая камунізацыя БАН, рэалізацыя «практычных мерапрыемстваў» ЦК КП(б)Б у дачыненьні БАН, апошнія гады дзейнасьці Акадэміі, як Беларускай Акадэміі Навук.

**Частка ІІІ.** Тут разглядаюцца: новы статут Акадэміі, Акадэмія Навук БССР пад бальшавіцкім прыгонам, пасьляваенная дзейнасьць Акадэміі Навук БССР, дзейнасьць Акадэміі Навук БССР апошняга трохгодзьдзя (1953-1956 гг.).

У канцы кнігі ў форме дадаткаў прыводзяцца: Статут Інбелкульту зацьверджаны 25 ліпеня 1924 г. сэсіяй ЦВК БССР; Статут Інбелкульту, зацьверджаны СНК БССР 29 чэрвеня 1927 г.; Статут Беларускай Акадэміі Навук з 26 сьнежня 1928 г.; Статут Беларускай Акадэміі Навук з 22 жніўня 1933 г.; Статут Акадэміі Навук БССР зь 9 ліпеня 1936 г.; Вучоныя Саветы інстытутаў Акадэміі Навук БССР, зацьверджаныя 5 сакавіка 1955 г.

Багаты фактычны матар'ял, вялікая колькасьць прыведзеных мала ведамых дагэтуль фактаў, ацэны дзейнасьці паасобных навукоўцаў і паасобных катэдраў ці інстытутаў ды багаты бібліяграфічны матар'ял — прыдаюць працы Г. Нямігі асаблівае значаньне. Гэта бясcумлеўна каштоўны ўклад у беларускую навуку.

Як даведваемся зь Інстытуту для Вывучэньня СССР, праца Г. Нямігі ўжо перакладзеная ў ангельскую мову й па адной частцы будзе зьмяшчацца ў № 5, 6 і 7 «Belorusian Reviev»; № 5-ы гэтага выданьня выходзіць з друку ў канцы гэтага месяца.

**А. Г.**

### ПАДЗЯКА

Управа Саюзу Беларусаў у Бэльгіі шчыра дзякуе ад імя сям'і Скокаў за грашовую дапамогу ў суме 30 даляраў, атрыманую ад Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Кліўленд. За атрыманыя грошы былі набытыя абутак і вопратка для меншых дзяцей гэтай сям'і.

За сацыяльнага рэфэрэнта СББ

**а. Др. Аўген Смаршчок**

### АБВЕСТКА

а. Др. Аўген Смаршчок просіць адрасаваць да яго лісты і ўсе паштовыя перасылкі дакладна як ніжэй:

Mr. Eugene Smorščék, Postbus 52,
MECHELEN 1, België.

# Адказы Рэдакцыі

**Сп-ні А. Саковіч. Кліўлэнд,** ЗША. Перасланае нам зь Нью Ёрку Вашае апавяданьне «Зь кім яна» зьмесьцім у вадным з калядніх нумароў «Бацькаўшчыны». Спадзяёмся, што Вы ня будзеце мець нічога супраць, калі загаловак апавяданьня зьменім на «Мы з аднэй сям'і». Гэткі загаловак, узяты з самага тэксту апавяданьня, дакладней перадае ягоны глыбокі сэнс. Мы былі-б Вам удзячныя, калі-б Вы распачалі больш сыстэматычнае супрацоўніцтва з нашай газэтай.

**Сп. В. П. Чыкаго, ЗША.** Ваш артыкул аб жыцьці й дзейнасьці сьв. пам. Янкі Чарапука-Змагара, з гледзішча на ягоны вялікі разьмер, зьмесьцім у падвойным калядным нумары «Бацькаўшчыны». Просім і надалей прысылаць нам да друку свае артыкулы.

**Сп. А. Кабычкіну, Канэ, Францыя.** На колькі нам ведама, выдаванай у свой час у Вільні газэты «Наша Думка» ў нікога на эміграцыі не захавалася.

**Сп. Янку Ліманоўскаму. Нью Ёрк. ЗША.** Вашага «Ліста ў Рэдакцыю» зьмясьціць ня можам з прычынаў наступнага характару:

1. Форма і тон Вашага ліста абражаюць беларускую інстытуцыю і ачольваючую яе асобу, якіх беларускае грамадзтва высока цэніць і мае да іх поўны давер.

2. «Выясьненьне», якое Вы просіце надрукаваць у «Бацькаўшчыне», было ўжо дастаткова «выясьнена» й разрэклямаванае на бачынах пашквільнага «Беларускага Голасу» і ў газэце генэрала Міхайлава «За возвращение на родину» аж у двух нумарох.

3. Нам абсалютна ясна што Вам ходзіць не аб выясьненьне, што быццам Вы самі пакінулі працу ў Беларускай Сэкцыі Радыя «Вызваленьне», а аб штосьці зусім іншае. У тое, што Вы пішаце ў сваім «Лісьце ў Рэдакцыю», хіба ня верыце й Вы самі. бо і Вам і цэлай беларускай калёніі ў Мюнхэне добра ведама, што была навет патрэбная інтэрвэнцыя беларускіх грамадзкіх дзейнікаў, каб адклікаць Вас зь Беларускай Сэкцыі Радыя, за якую Вы аберуч трымаліся.

4. З вышэй прыведзеных прычынаў Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» не знаходзіць патрэбы ўступаць з Вамі ў дыскусію ў гэтай справе, як і ў дыскусію з Вамі наагул.

5 Дзеля таго, аднак, што Вы пасьля Вашага звальненьня з працы ў Беларускай Сэкцыі Радыя «Вызваленьне» бесьперапынна вядзіцё розныя паклёпы на Раду БНР, намагаючыся прадставіць зь сябе «нявінную ахвяру» дзеля здабыцьця спачуваньня й заступніцтва за Вас сярод беларускага грамадзтва, Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» пастанавіла зьвярнуцца да тых ворганаў, якія задэцыдавалі не дапусьціць Вас да павароту на працу ў Беларускую Сэкцыю Радыя «Вызваленьне», з просьбаю дазволіць Рэдакцыі падаць да ведама беларускага грамадзтва ўсе факты, за што, як і чаму была прынятая ў Вашай справе такая дэцызія.

# КАМУНІКАТ ССФ

Галоўная Ўправа Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на Чужыне падае да ведама, што сп. Др. Аўген Вярбіцкі (P. O. Box № 301, WATERLOO, Jowa, USA) зьяўляецца старшынём філіі Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду на ЗША й мае ўсе паўнамоцтвы на сьцягваньне даўгоў ад былых студэнтаў, даўжнікоў ССФ, ды на выстаўляньне лістаў ахвяраў на карысьць фонду й студыюючай беларускай моладзі. Дзейнасьць філіі абмяжована вылучна да ЗША; падобную дзейнасьць ува ўсіх іншых краінах праводзіць сама Галоўная Ўправа ССФ, з тымчасовай сядзібай у Бэльгіі.

На гэтым месцы Галоўная Ўправа ССФ складае шчырую падзяку др. Вярбіцкаму за ягоную энэргічную дзейнасьць; усіх даўжнікоў Фонду просім пазытыўна адклікацца на ягоныя заклікі як старшыні філіі ССФ, якая працуе на карысьць беларускага студэнцтва; усім ахвярадаўцам на засіленьне касы Фонду дзякуем загадзя за іх шчодрыя даткі на высокую мэту.

Сабраныя сумы ў ЗША ў прынцыпе астаюцца на карысьць беларускага студэнтцтва ў ЗША й толькі ў выняткoвых выпадках яны могуць быць ужытыя на дапамогу студэнтам у іншых краінах, і наадварот.

У касе Галоўнай Управы ССФ знаходзіцца цяпер некалькі тысячаў бэльгійскіх франкаў, якія могуць быць ужытыя зараз-жа на аднаразовую й зваротную пазыку патрабуючым студэнтам у Эўропе, ці за яе межамі, на падставе абаснованай заявы, ськіваванай на рукі старшыні Галоўнай Управы ССФ а. Др. А. Смаршчка (P.-B. № 52, MECHELEN 1, België)

Студэнты із США складаюць заявы на рукі Др. А. Вярбіцкага.

Адначасова Галоўная Ўправа ССФ зьвяртаецца з гарачым заклікам да ўсіх даўжнікоў Фонду, што пражываюць у розных краінах (за выняткам ЗША) зьвярнуць, або пачаць зварочваць ратамі, студэнцкія даўгі на адрас старшыні Управы й скарбніка Фонду, як вышэй.

За Галоўную Ўправу ССФ
а. Др. Аўген Смаршчок

*Зблiжаюцца Калядніяя Сьвяты!*
*А найлепшым падаркам на гэтыя Сьвяты ёсьць беларуская кніжка Выдавецтва „Бацькаўшчыны“!*

# Прыкрасьць знатнай сьвінаркі Ягнешы

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьня»)**

Знатная сьвінарка калгасу імя Маркса Ягнеша Сыраежка, адбахаўшы дзьве нормы ў гонар роднай партыі, хуценька пабегла пад калгасную краму й заняла месца ў чарзе. У краме «адпускалі» селядцы, груцу й брашуру з прамовай Хрушчова. Стоячы цярпліва ў чарзе, Ягнеша цярпліва чытала «Советскую Культуру», якую захапіла із сьвінарніка. «Советская Культура» мела служыць дзьвюм мэтам: быць культурнай забавай падчас нуднага чаканьня ў чарзе й тарай для селядцоў. Ведаем, што кажны савецкі чалавек, з пашаны да савецкай культуры, селядцы й іншыя прадукты, перадусім, запакоўвае ў «Совецкую Культуру», а пасьля йдзе «Правда», «Известия» й іншыя менш культурныя ворганы.

І вось Ягнеша, чытаючы газэты, ужо амаль прыблізілася да ваконца крамы. І раптам, як сьнег на галаву, перад крамай зьявіўся старшыня кагласу Рыгор Кепка й зэўсаўскім голасам апавесьціў, што крама зачыняецца, «адпусканьне» спыняецца, а ўсе з чаргі маюць ісьці ў клюб, дзе раённы агітатар будзе выясьняць гістарычнае значэньне гістарычнай дэклярацыі аб гістарычнай нарадзе прадстаўнікоў камуністычных партыяў, якія сабраліся ў Маскве. У чарзе паўстаў непатрыятычны настрой, некалькі дзесяткаў калгасьнікаў прабавалі пратэставаць, што яны-б хацелі купіць селядцы й крупы, але старшыня й слухаць не хацеў.

«Не селядцамі адзінымі жыве савецкі чалавек!» — крыкнуў ён і загадаў зачыніць ваконца крамы.

Месячы мокры сьнег у глыбокае балота вуліцы, калгасьнікі калгасу імя Маркса чаргой павалакліся з чаргі ў клюб, дзе мелі атрымаць у неабмежаванай колькасьці духовую страву...

У клюбе было сьцюдзёна, цемнавата, дыміла печ і «казіныя ножкі» з «карашкоў»! Раённы агітатар сонным голасам чытаў гістарычную дэклярацыю. Некалькі калгасных актывістых час-адчасу рабілі «бурныя воплескі», рэшта маўчала й думала. Аб чым? Божа мой хто можа дадумацца, што думае савецкі чалавек, калі ён думае на палітнавуцы? !

Калі агітатар скончыў і запытаўся ці ёсьць якія пытаньні, устала наша Ягнеша Сыраежка, якая, як перадавік і герой сацыялістычнай працы, чулася забавязанай узяць голас.

Вось ейныя словы:

«Таварыш агітатар! Скажэце, калі ласка, хто цяпер акупуе й эксплятуе гэныя Ягіпец і Сыраю, бо як вы нам прачыталі, наша родная партыя й іншыя родныя партыі 11-ці краінаў вельмі-ж турбуюцца лёсам гэнага Ягіпту і гэнай Сырой, ды хочуць іх вызваляць спад нацыянальнага й каляняльнага прыгнёту?

І далей: Вы сказалі, што апошнім часам наш родны ўрад даў гэнаму Ягіпту 700 мільёнаў рублёў. Але калі Ягіпец знаходзіцца пад акупацыяй, дык гэтыя 700 мільёнаў могуць трапіць у лапы акупантаў...»

Агітатар замітусіўся і ў вадказ выкрактаў, што Сырыя і Ягіпец пакульшто нікім неакупаваныя, але можа здарыцца, што іх імпэрыялістычныя акулы захочуць скалянізаваць. У сваёй рэпліцы агітатар заблытаўся й замест скалянізаваць, сказаў сканалізаваць. Відаць, што агітатар, як і маскоўскія правадыры, думаў аб Суэскім канале.

Больш пытаньняў ня было, і калгасьнікі калгасу імя Маркса, месячы сьнег ў балота, павалакліся дамоў.

Дома Ягнеша «Советской Культурой» і брашурамі, якія атрымала ў клюбе, падпаліла печ. Пры гэтым пажадала роднай партыі й асабіста таварышу Хрушчову чагось такога, што, калі-б яно сталася, — ня было-б ні партыі, ні Мікіты Хрушчова.

**пс**

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 14 Steel St., Spotswood-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. M. W. Kastelan,** 2, Rue Galvani Roubaix (Nord).





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**